


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 12 (1099) ГОД XXII БЕЛАСТОК 20 САКАВІКА 1977 г. ЦАНА 60 гр.

## Новыя вершы

* * *

Няпраўда, што існуе жорсткі лёс,
Які інакшым больш не назавецца,
Калі жывеш ля самых тых бяроз,
Што выраслі з твайго калісьці сэрца.

Успомні: ёсць сяброўская рука.
Забудзь, што ёсць няўдачы
і праклёны,
І уяві, што лепш няма кутка,
Чым гэты вось, запылена-зялёны.

**Яўгенія Янішчыц**

### З рэпарцёрскіх запісак

## ПАКЛОН МАЛАДЫМ ГАСПАДАРАМ

Пад канец месяца лютага адбылася ў Беластоку сустрэча вясковых дзеячаў Саюза сацыялістычнай польскай моладзі з намеснікам ваяводы **Станіславам Тапорам** і кіраўніком сельскагаспадарчага аддзела Ваяводскага камітэта партыі **Мікалаем Гапунікам.** Быў гэта своеасаблівы паклон маладым жыхарам вёскі з боку ваяводскіх улад. Зрэшты, не першы і не апошні. Улады разлічваюць на моладзь.

Трэба нам, як гаварыў Мікалай Гапунік, абавязкова спыніць уцёкі маладых людзей з вёскі. Інакш зойдзем у тупік. Ужо цяпер на 157 тысяч сялян, што на Беласточчыне займаюцца апрацоўкай зямлі, амаль 24 тысячы — гэта людзі вышэй шасцідзесяцігадовага ўзросту, а каля палавіны з іх (дакладна 9,5 тысячы) не мае каму аддаць свае гаспадаркі.

Нават калі і ёсць каму яе аддаць, старыя гаспадары вельмі неахвотна аддаюць свае гаспадаркі дзецям. Зямля для іх — апошняя жыццёвая апора, яна дае пачуццё сілы і стварае ўпэўненасць, што пакуль зямля ў іх руках, яны паны.

Тут, вядома, праяўляецца (і не без падстаў) найгоршы вопыт старых жыхароў вёскі, якіх вельмі часта іх уласныя дзеці проста выкідалі з хаты, калі яны, старыя, не маглі ўжо працаваць, а станавіліся сямейным цяжарам. І таму старыя кажуць: „На ласкавы хлеб не пайду“. А вынік такі, што сын, калі і захоча застацца на гаспадарцы, становіцца яе праўным уласнікам ва ўзросце 45-50 гадоў. Такая сярэдняя статыстычная ўзросту для ўсяго беластоцкага ваяводства. Такі нашчадак мае ўжо сваіх дзяцей, якія, у сваю чаргу, паспелі ўжо заснаваць свае ўласныя сем'і і, калі сярод іх знойдзецца аматар сельскай гаспадаркі, адкуль яму ўзяць зямлю?

Тут узнікае сур'ёзная праблема: **ці варта перадаваць гаспадарку ва ўладанне 50-гадоваму сыну, ці не лепш ад-**

**(Працяг на стар. 5)**



### БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77

**Хор гуртка БГКТ у Беластоку заняў на цэнтральным аглядзе трэцяе месца ў катэгорыі фальклорнай песні.**

**Фота К. Свідэрскага.**

## СВЯТЛО І ЦЕНІ

Справа павышэння ведаў нашых сялян цяпер, як і ў наступныя гады, з'яўляецца адным з найважнейшых заданняў, паспяховае вырашэнне якіх вядзе да павелічэння колькасці і росту якасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Гэтаму служаць розныя формы вучобы сялян, якая вядзецца цяпер у гмінах і сёлах. Прыглядзімся гэтаму бліжэй на прыкладзе Сакольскай гміны.

У 1976/77 асветным сезоне вучоба сялян у гэтай гміне арганізавана і праходзіць нядрэнна. У сакольскім вячэрнім сельскагаспадарчым тэхнікуме займаецца каля 80 асоб. У 11 калектывах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (ПР-ы) усіх трох ступеняў вучыцца каля 170 асоб. На занятткі 130-гадзінных сельскагаспадарчых кваліфікацыйных курсаў ходзіць каля 160 асоб. Амаль 20 асоб займаецца на курсах, арганізаваных для тых сялян, што ўводзяць спецыялізацыю ў сваіх гаспадарках. Дадайма яшчэ масавую сельскагаспадарчую асвету, у якой прымае ўдзел ад 10 да 20 чалавек у кожным сяле. Гэта ўжо лікі не малыя. І ў гмінным праўленні не памыляюцца, калі лічаць, што з 90 працэнтаў усіх гаспадарак на тэрыторыі гміны нехта (часцей за ўсё бацька або сын, радзей дачка ці маці) ходзіць на заняткі. Значыць, у сакольскіх сялян наступае карысны пералом у падыходзе да спраў працы на гаспадарцы, і сельскагаспадарчая вучоба ўспрыймаецца імі ўсур'ёз і з павагай. Не трэба даказваць, што гэта перш за ўсё вынік палітыкі нашай партыі і дзяржавы, якая цяпер ажыццяўляецца. Трэба прызнаць таксама, што і партыйныя, маладзёжныя ды грамадскія арганізацыі ў гэтай гміне не спускалі вока са спраў сельскагаспадарчай вучобы.

Аднак масавасць — гэта ўсяго толькі адзін бок вельмі складанага працэсу, якім з'яўляецца павышэнне сельскагаспадарчых ведаў сялян. Не менш важнай справай з'яўляецца тое, хто і як вядзе заняткі. На першы погляд і ў гэтым у Сакольскай гміне ўсё пастаўлена добра. Вячэрні тэхнікум мае кваліфікаваных спецыялістаў-настаўнікаў, заняткі ў ПР-ы вядуць у асноўным працаўнікі сакольскага СКР-у, на кваліфікацыйных курсах і ў масавай вучобе выкладаюць працаўнікі тутэйшай сельскагаспадарчай службы, ветэрынарнай лячэбніцы, меліярацыйнага, геадэзійнага і іншых прадпрыемстваў і ўстаноў, звязаных з сельскай гаспадаркай, а са спецыялізуючыміся сялянамі займаюцца навуковыя працаўнікі Раённай сельскагаспадарчай вопытнай станцыі ў Шапятове.

Але вось тут і крыецца загвоздка. Усе гэтыя выкладчыкі, выключаючы толькі настаўнікаў тэхнікума і іншых школ, не маюць спецыяльнай падрыхтоўкі па педагогіцы, псіхалогіі і методыцы навучання. А без яе эфектыўнасць заняткаў мае значныя недахопы, чаму яскравы прыклад выказванне аднаго са слухачоў-сялян, які, махнуўшы рукой, заўважыў: „Ат, якая там навука — нагаварыў, натаркацеў нам якісьці пан з Саколкі, сабраўся ды паехаў сабе. Вось і па ўсім занятку. Такія там мондрыя ды модныя словы ўжываў, што і сам чорт іх не зразумее...“. Але не толькі гэта абніжае вартасць заняткаў. Здараюцца таксама і такія „выкладчыкі“, якім

**(Працяг на стар 4)**



*Прыходзь, вясна!* *Фотаэцюд Я. Цялушэцкага.*

## І ПЕСНЯ І ПРАЦА

Сямён Маркевіч вядомы ў Кляшчэлях як таленавіты саліст, як чалавек з мілагучным тэнарам, які, спяваючы, закранае самыя глыбокія пачуцці сваіх слухачоў. Многія зайздросцяць яму, таксама хацелі б сваім голасам уздзейнічаць на людзей. Але не кожны абдараны такімі магчымасцямі.

На сямейных і суседскіх урачыстасцях голас Сямёна Маркевіча ўзнімае настрой, радуе гасцей. Ён ахвотна ўключаецца і ў мастацкую самадзейнасць. Песня і музыка спадарожнічаюць яму ад дзяцінства. У школьныя гады выдзяляўся ён сярод дзяцей голасам і музычнымі здольнасцямі. У 1940 і 1941 гадах быў ён членам мастацкага калектыву, які на раённым аглядзе ў Кляшчэлях і на абласным у Брэсце заняў першае месца. Праз нейкі час меў быць агляд у Мінску. Але нахлынула вайна...

І толькі пасля вызвалення, дзякуючы Аляксандру Шчэрбаку з Бельска, зноў быў створаны драмгурток, які выступаў на многіх сцэнах сваёй ваколіцы, у тым ліку і ў Бельску. Сямён Маркевіч іграў тады на кларнеце. Іграў многа і ўсюды. Мо разоў 50 іграў на музыках, а пазней — на дажынках у Гайнаўцы. А калі выступаў на сцэне, дык найчасцей у дуэце з Антонам Младзяноўскім або Уладзімірам Якубоўскім.

Цяпер Сямёну Маркевічу 51 год. Але ён на столькі год не выглядае, не мае ні сівізны, ні маршчынак на твары. Быццам песня і музыка яго адмалоджвае. Адчувае сябе добра. Толькі, як кажа, работы мнагавата. Працуе ён разам са сваёй жонкай Вольгай на гаспадарцы, якая складаецца з 12 гектараў.

Нядаўна мы наведалі Сямёна Маркевіча. Дом яго стаіць у садзе, дзе больш 50 пладовых дрэў, а паміж імі — вуллі. Ад агарода аж да сяней вядзе бетонны ходнік. Хата драўляная з прыгожым ганкам. Складаецца яна з трох пакояў і вялікай кухні. Усюды парадак і чысціня. Гэта сведчыць аб гаспадыні хаты, якая сваімі рукамі выткала дарожкі

**(Працяг на стар. 4)**

## ШТО НОВАГА?

### Уранавая ліхаманка

У 1971 годзе Англія, ФРГ і Нідэрланды заключылі пагадненне, якое прадугледжвае стварэнне „ўранавага пула". Непасрэднай вытворчасцю абагачанага ўрану заняліся Англія і Галандыя, бо, паводле Парыжскіх пагадненняў 1954 года, Заходняй Германіі забараняецца вырабляць матэрыялы, якія могуць быць выкарыстаны для стварэння атамнага і іншых відаў зброі масавага знішчэння.

У галандскім горадзе Алмела створана прадпрыемства „Урэнка" па вытворчасці абагачанага ўрану — паліва для атамных электрастанцый — ультрацэнтрыфугальным метадам. Цяпер на ім працуе звыш тысячы чалавек. Сыравіну пастаўляе міжнародная нафтавая кампанія „Шэл", якая вядзе распрацоўку ўранавых руднікоў у Афрыцы і на Калімантане...

У Галандыі няма атамных электрастанцый, таму прадукцыя „Урэнка" вывозіцца ў ФРГ. У апошні час у галандскім друку з'яўляецца ўсё больш трывожных паведамленняў пра адваротны бок такога супрацоўніцтва.

У чэрвені 1975 года ФРГ заключыла пагадненне аб пастаўцы Бразіліі 8-10 атамных электрастанцый, завода па абагачэнню ўрану і завода на другаснаму абагачэнню, які дасць магчымасць атрымліваць з адходаў атамных электрастанцый сыравіну для стварэння атамнай бомбы. Такое пагадненне, як вядома, супярэчыць духу Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі.

У парламенце Нідэрландаў разгарэліся гарачыя спрэчкі па пытанню аб расшырэнні завода ў Алмела. Менавіта гэтага ў апошні час дабіваецца ФРГ. У адпаведнасці з праектам магутнасць гэтага завода к 1982 году павінна дасягнуць дзвюх тысяч тон абагачанага ўрану. Гэта якраз столькі, колькі неабходна для выканання заходнегерманскіх абавязацельстваў перад Бразіліяй па пастаўках паліва для атамных электрастанцый.

Галандскі ўрад, зыходзячы з эканамічных меркаванняў, схільны павялічыць вытворчасць і продаж абагачанага ўрану. З рэзкай крытыкай такога рашэння выступілі прадстаўнікі палітычнай партыі радыкалаў. Яны запатрабавалі перагляду фінансава-эканамічных умоў ультрацэнтрыфугальнага праекта і забеспячэння цвёрдых гарантый таго, што ўран, які пастаўляецца з Алмела іншым краінам, не будзе выкарыстаны для вытворчасці атамнай зброі.

### Інтэрв'ю чыкагскага фюрэра

— Наша асноўная мэта? — перапытаў Фрэнк Колін карэспандэнта агенцтва ЮПІ і, не задумваючыся, адказаў: — Прымусіць усіх „каляровых" выбрацца туды, адкуль прыйшлі. Няхай едуць у Афрыку, Азію, на Блізкі Усход...

Кіраўнік амерыканскай „нацыянал-сацыялістычнай партыі белых" сустрэў журналіста ў сваёй чыкагскай рэзідэнцыі на Уэстр-авеню пры поўным парадзе. На ім была нацысцкая форма часоў другой сусветнай вайны, на правым рукаве красавалася павязка з белым кругам і свастыкай пасярэдзіне. Колін адразу перайшоў да справы. Перш за ўсё ён растлумачыў, чаму амерыканскія фашысты вырашылі запрасіць карэспандэнта — „Прэса нядрэнная штука, а нашай арганізацыі патрэбна рэклама".

— Пішыце пра нас толькі праўду, — гаварыў Колін. — Мы лічым, што ў Амерыцы настаў час расавай вайны. Няхай людзі забіваюць адзін аднаго, няхай кідаюць бомбы на вуліцах нашых гарадоў. Гэта лепш, чым так званы „расавы мір", які прыводзіць да кровазмяшэння і выраджэння белых.

Пасля кароткага інтэрв'ю Фрэнк Колін дазволіў сябе сфатаграфаваць — пад амерыканскім флагам, з „Майн кампф" у руках.

## Наша галерэя



Я. Зайцаў. Пахаванне героя. 1946.

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

### У пошуках магілы брата

На тэрыторыі Чаромхаўскай гміны ў гады апошняй вайны загінулі сотні савецкіх салдат. У грамадства Чаромхі назаўсёды застанецца ў памяці гераізм савецкіх воінаў. У знак удзячнасці адкрыта дошка памяці ў паравозным дэпо, у Вольцы Тэрэхоўскай на супольнай магіле. У Рэпчыцах, у Кузаве і многіх іншых мясцінах увекавечана месца на магілах. Кожны год мясцовае насельніцтва ў гадавіну перамогі над гітлераўскім захопнікам прыносіць сюды букеты кветак.

Аднак не заўсёды можна знайсці сляды загінуўшых герояў. Вось ліст грамадзянкі Савецкага Саюза Надзежды Купрыянаўны Валенюк-Чупілка з Запарожжа:

„У час Вялікай Айчыннай вайны мой брат Чупілка Міхаіл Купрыянавіч — шафёр САУ-76 (самаходна-артылерыйскай устаноўкі) вызваляў зямлю братняй Польшчы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Мне вядома з апавяданняў навочных сведкаў — калег, з артыкулаў газет, што гэта здарылася ў раёне вёскі Кузава і ст. Чаромха.

...Полк самаходна-артылерыйскіх гармат ішоў уперад. Каля чыгуначнай станцыі Чаромха войскі спыніліся. Наперадзе быў недаступны пункт немцаў. Машына Чупілкі ішла ўперадзе. Фашысты адкрылі ўраганны агонь. Направа і налева разрываліся снарады. Адломкі гучэлі па броні, хвасталі па назіральнай шчыліне. Танк спыніўся, страляў ва ўпор, ізноў ірваўся ўперад. Вось разляцелася адна гармата гітлераўцаў, другая, загарэўся кулямёт...

Мы абыходзілі станцыю з флангаў...

Пачын танкістаў натхніў наступаючыя падраздзяленні. З крыкам „ура!" байцы ірвануліся ў атаку. У баі было знішчана 200 фашыстаў, 140 здалося ў палон, захоплены два „тыгры", дзесяткі гармат і кулямётаў. За праяўлены гераізм і адвагу Міхаілу Купрыянавічу Чупілку пасмяротна прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

Гэта было 24 ліпеня 1944 года.

З таго моманту мінула 32 гады, а памяць аб дарагім браце будзе вечна.

Я сардэчна прашу вас памагчы мне ўстанавіць, ці не засталася аб ім памяць у раёне, дзе ён загінуў?"

Гэты ліст атрымала праўленне аддзела ПТТК у Гайнаўцы. З увагі на тое, што датычыць ён тэрыторыі Чаромхаўскай гміны, ліст быў перасланы ў праўленне гміны. І вось мне, як карэспандэнту, перадаюць яго I сакратар ГК ПАРП тав. Казімір Краўчык і сакратар праўлення гміны тав. Мікалай Кулік. Я абяцаў ім адшукаць след па загінуўшым героі. І зраблю ўсё, што будзе магчыма. Спадзяюся таксама, што знойдуцца сведкі тых падзей і памогуць мне зрабіць гэта.

**Уладзімір Сідарук**

## Наш каляндар

### Вінцук Дунін-Марцінкевіч

Вінцук Дунін-Марцінкевіч нарадзіўся ў 1807 годзе на Бабруйшчыне ў фальварку Панюшковічы ў шляхецкай сям'і. Закончыўшы гімназію ў Бабруйску, у 1824 годзе паступіў у Пецярбургскі універсітэт, дзе пачаў вучобу на медыцынскім факультэце, але які па нявысненых прычынах не ўдалося яму закончыць. У 1827 годзе выехаў у Мінск, дзе пачаў працаваць у гарадскіх установах. Потым, у 1840 годзе купіў маёнтак Люцынка, куды пераехаў і пражыў да канца сваіх дзён, гэта значыць да 1884 года. В. Дунін-Марцінкевіч належыць да так званай групы польска-беларускіх пісьменнікаў. Жыццё яго было ціхае, спакойнае, пазбаўленае выключных падзей і здарэнняў. Быў ён далёкі ад рэвалюцыйнай паэзіі і стварэння падобных ідэй. Прапаведваў класавую згоду, і гэта найбольш характэрна для яго творчасці. Яму здавалася, што найбольш дасканалай з'яўляецца феадальная сістэма, а розныя выступаючыя недахопы можна залагодзіць узаемнымі ўступкамі. Марцінкевіч належаў да тых памешчыкаў, якія зразумелі, што іх дабрабыт пабудаваны на галечы сялян, і ён, магчыма, не раз шукаў выхаду з гэтай парадаксальнай пабудовы жыцця. Галодны мужык не кахае свайго сытага пана. І Марцінкевіч хацеў палепшыць лёс мужыка, наблізіць яго да пана, але адначасова, будучы прапаведнікам поўнага выкарыстання жыцця, хацеў, каб адбылося гэта без ушчэрбу для памешчыцкага быту. Справа гэта нялёгкая. Вінцук Дунін-Марцінкевіч пайшоў па канцэпцыі добрых і цёплых адносін паміж сялянамі

(Працяг на стар. 5)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**Бачыць добрую перспектыву ● Барысаўка ● Як астацца дурнем? ● Белавежскія часопісы ● ● Беларуска-чэхаславацкія сувязі ● Як „Ніяк" купляў вядро ● Клуб алімпійца ў Боцьках ● „Баксёры" ў Чыжах ● Сялянскія суполкі ● „Грамада" служыць вёсцы ● Весткі з Доўнева, Шчытоў, Новаберазова, Грэдалёў, Бельска, Галадоў, Казімерова, Гайнаўкі ● Калі сніцца гасціна ● Як вярнуць хлопца ● Песня „Sing, Sing".**

## ХРОНІКА

■ Нядаўна адбыўся сход гуртка БГКТ у Піражках (гміна Шудзялава), на якім былі разгледжаны культурна-асветныя справы. Шмат увагі было прысвечана драмгуртку, які падрыхтаваў п'есу Юркі Геніуша „Хто каго". Вырашана, што самадзейнікі возьмуць удзел у аглядзе тэатральных калектываў БГКТ.

■ Драматычны калектыў гуртка БГКТ у Рагачах (гміна Мілейчыцы) выступаў нядаўна на мясцовай сцэне з п'есаю Янкі Купалы „Паўлінка". Ён таксама возьме ўдзел у аглядзе тэатральных калектываў БГКТ.

■ 27 лютага гарадскі гурток БГКТ у Беластоку арганізаваў у памяшканні ГП урачысты вечар, прысвечаны 59-ай гадавіне Савецкай Арміі. На гэтую тэму прачытаў даклад старшыня мясцовага гуртка БГКТ Мікалай Гайдук. Затым пачалася мастацкая частка, у якой выступілі харавы калектыў „Каласкі" і тэатральны калектыў з п'есаю І. Эвальд „Мараль Наталлі Зотавай".

(мх)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Sobota — 19.III.** 6.00 Tech. Rol. Upr. rośl. 6.30 Mech. rol. 9.00 Dla klasy VIII. Nauka o czł. 11.30 Teatr Sensacji: J. S. Znamierowski „Honor bez motywów" cz. III. 13.45 Tech. Rol. Hist. 14.30 Hod. zwierz. 15.00 Red. szk. zap. 15.15 Pr. dnia. 15.20 Radzimy rolnikom. 15.30 Dziennik. 15.40 Studio 8 — to całodzienny program skomponowany wspólnie przez 8 stacji (Gdańsk, Katowice, Kraków, Łódź, Poznan, Szczecin, Wrocław i Warszawa) i prowadzony na „żywo" ze studia w tych miastach.

**Niedziela — 20.III.** 6.00 Tech. Rol. Hist. 6.30 Hod. zwierz. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Wielcy odkrywcy — odc. III filmu ser. 11.35 Dziennik. 11.55 Rolnicze rozmowy. 12.25 A. Rubinstein gra Koncert fortepianowy c-moll Beethovena. 13.05 Dla dzieci. 14.05 Piórkiem i węglem. 14.30 Los. Duż. Lot. 14.45 Wielka gra. 15.40 Sport. 16.25 Tele-Echo. 17.25 Dziki swobodny — film fab. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.40 Godzina szczytu — film fab. pol. 22.05 Śpiewa Jack Jones. 22.45 Sport.

**Poniedziałek — 21.III.** 12.45 Tech. Rol. Chem. 13.25 RTV szk. śred. Biolog. 15.50 NURT. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.55 Znaki Zodiaku: Baran. 18.05 Znaki szczególne — film ser. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Telewizji. F. Dürrenmatt: „Play Strindberg". 21.55 Camerata. 22.30 Darz Bór — film dok. 23.00 Dziennik.

**Wtorek — 22.III.** 6.00 Tech. Rol. Chem. 6.30 Biol. 10.00 Dla klasy II lic. J. pol. Z. Krasiński „Nieboska komedia". 12.00 Dla klasy VIII. Hist. O Polskę Ludową. 13.45 RTV szk. śred. Mat. 14.30 Tech. Rol. Mech. rol. 16.20 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Studio Mł. 17.40 Kółko i krzyżyk. 17.55 Interstudio. 18.25 W starym kinie. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Marcus Welby — ser. amer. 22.10 Listy i polityka. 22.40 Dziennik.

**Środa — 23.III.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Mech. rol. 10.00 Dla klasy V. Hist. W kraju Mieszka i Chrobrego. 11.05 Dla klasy VIII. Fiz. Pośród fal elektromag. 12.00 Tech Rol. Chem. 12.45 RTV szk. śred. J. pol. Sonety krymskie. 13.25 Fiz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci: 17.30 Los. Mał. Lot. 17.45 Gra i śpiewa zespół „Orera". 18.00 Gra — teletur. 18.35 Skarby siódmego kont. — film dok. fr. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Koledzy — film fab. radz. 22.15 XYZ cz. I. 22.55 Dziennik.

**Czwartek — 24.III.** 6.00 RTV szk. śred. J. pol. 6.30 Fiz. 9.00 Dla klasy VIII i I lic. Przysp. obr. 10.00 Dla klasy II lic. J. pol. 11.05 Dla kl. VII—VIII. J. pol. 13.45 Tech. Rol. Fiz. 14.30 Tech. Rol. Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci: 18.00 Dwieście pięćdziesiąty trzeci start — rep. 18.20 Eureka. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Kojak — film ser. 21.25 Pegaz. 22.10 Nie taki diabeł straszny — pr. muz. 22.55 Dziennik.

**Piątek — 25.III.** 6.00 Tech. Rol. Fiz. 6.30 Upr. rośl. 10.00 Dla klasy VI. Geogr. 11.05 Dla klasy II „Wycieczka do POM-ów". 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Lektury Pegaza. 17.55 Powszednie dni — film ser. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Esterina — film fab. wł. 22.05 Teatr Telewizji. M. Misiorny „Bestia". 23.05 Dziennik.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 18.III** — 17.10 Podróż TV. 18.00 Nasza biografia. 19.30 Wieczór operetki.

**Sobota 19.III** — 12.30 Śpiewa T. Rajewska. 12.50 Film fab. 14.45 Balet. 15.25 Filmy anim. 16.15 Nie do wiary. 17.15 Koncert. 17.45 Film TV. 19.30 Wszechzw. konkurs mł. wykonawców.

**Niedziela 20.III.** — 11.30 Film fab. 15.30 Filmy anim. 16.15 Klub film. 17.35 Film fab. 19.30 Koncert amat. Moskwy.

## КІНО

**Białowieża** Smarkacz na boisku — szwedz. 22—23. Szczęki — USA 24—25. Troje ze skrzydlatego pułku — radz. 27.

**Bielsk Podl.** Trędowata — pol. 22—27.

**Czeremcha** Ostatni wiosenny śnieg — wł. 22—23. Wiem, że jesteś mordercą — czes. 26—27.

**Czyże** Czy pasujemy do siebie, kochanie — czes. Pojedynek na szosie — USA 23—27.

**Dubicze Cerkiewne** Tak zaczyna się miłość — czes. Nawiększe wydarzenie od czasu, gdy człowiek stanął na księżycu — fr. 23—27.

**Hajnówka** Spotkanie — ang. 22—23. Smuga cienia — pol. 24—25. Kto szuka złotego dna — czes. 26—27.

**Kleszczele** Sprawa do załatwienia — pol. 22—23. Maria — szwedz. 24—25. Miłość szesnastolatków — NRD 26—27.

**Michałowo** Partita na instrument drewniany — pol. 22. Mały wielki człowiek — USA 23—24. Szczęki — USA 25—27.

**Mielnik** Nie oglądaj się teraz — ang. 23. Drogi chłopiec — radz. 26—27.

**Milejczyce** Tygrysiątko — buł. 22—25. Ojciec chrzestny — USA 26—27.

**Narew** Kangur — węg. Żona Jana — fr. 23—27.

**Narewka** Dziewczyna i auto — węg. Con amore — pol. 23—27.

**Nurzec** Człowiek, który przestał palić — szwedz. 22—23. Zindy — chłopiec z bagien — meks. 24—25. Zaborcza miłość — buł. 26—27.

**Orla** Bez wyjścia — szwedz. Straszna teściowa — radz. 23—27.

**Rajsk** Afonia — radz. Kto szuka złotego dna — czes. 23—27.

B.Z.Graf. Zam. 703 B-4




Гэта было далёка перад другой сусветнай вайной. У адзін сонечны летні дзень грабаўлякі ўбачылі на заходняй частцы неба дзіўны пункцік. Мае бацькі ў той час былі дома: якраз прыйшлі з поля палуднаваць. Я з'еў сваё хутчэй за ўсіх, бо спяшаўся (пакуль меншыя дзеці з мамай і татам) пабыць вольным на дварэ. Я еў толькі кулешык з малаком, значыць, не вельмі наеўся. Дай, думаю, удрапаюся на грушку ды назрываю жоўценькіх вінавак. Грушка гэта расла ў нашым садзіку тут жа ля плоту, які аддзяляў садзік ад вуліцы. Я толькі паспеў узлезці на плот, бачу: прэ дарогаю ва ўсю сілу наша суседка Казьмера. Смешна яна выглядала заўсёды, бо мела вялікі жывот і кароценькія ножкі. Сёння выдавалася яшчэ смяшнейшай, бо была вельмі спацелая і перапалоханая. Дабегла да нашых варот і крыкнула:

— Васечка, злазь з плоту і бяжы ў хату, скажы бацькам, што будэ конэць света. Унь, дывысь, што на нас ідэ!

Я з плоту не злез, а саскочыў (з вялікага страху). У тым баку, куды Казьмера выцягнула руку, вісеў на небе нейкі бліскучы прадмет, нібы празрыстая грушка. І я ўплач, што ідзе патоп.

Бацькі, пачуўшы крык Казьмеры і мой плач, выскачылі з хаты. Павыбягалі з хат і суседзі. Адны, даведаўшыся, што ідзе патоп, падалі на калені і білі паклоны, другія стаялі і, плачучы, маліліся, трэція рагаталі, аж качаліся. Тыя, што маліліся, пачалі крычаць на тых, што рагаталі, каб пераставалі бязбожнічаць, бо „то летыт архангел Міхаіл, коб об'явіты конэць света".




А цудоўны прадмет усё падыходзіў бліжэй і бліжэй ды большаў. Жанчыны і дзеці верашчалі на ўсю вёску, ніхто нічыіх парад і слоў пацяшэння не хацеў слухаць. Я роў, зноў улезшы на вароты, але мяне, вядома, ніхто не пацяшаў. Тады мне прыйшло ў галаву, каб уцячы. Дай, думаў, драпану за клуню ў каноплі, дзе расла высокая ліпа. Забег туды, прытаіўся пад ліпаю ў каноплях і ляжу. Думаю: калі будзе вада займаць агарод, то я хутчэй узлезу на ліпу. А калі архангел Міхаіл аб'явіць канец свету, дык адтуль хутчэй траплю ў рай. Я ж заўсёды маліўся. Нічога, што ніводнай малітвы не ўмею, але ж архангел ведае, што малюся ахвотна, і напэўна прыме мяне ў анёлы.

Не памятаю, аб чым яшчэ думаў і як доўга ляжаў. Але калі прачнуўся, сонейка таксама ясна свяціла і было ўсюды ціха, нібы нічога і не здарылася. А мо архангел Міхаіл усіх забраў, а мяне, не знайшоўшы ў каноплях, пакінуў? Увайшоў я ў хату, бы злодзей. Гляджу, усе жывыя, толькі не пайшлі ў поле, бо не было з кім пакінуць дзяцей.

— Дэ ты, сучы сыну, лазыш? — спытала мачаха. — Ужэ мусыт думаў, шчо на нас погібэль прышла і ў лес схаваўся? О нэ, цвальку смэрдзячы, ты хучэй згінэш од нас. А тэпэр пылнуй дыты!

— Мамо, я нэ був у лесу, я був у городы за клунёю, — прабаваў я тлумачыцца, але мачаха крыкнула, каб змоўк і не хлусіў, бо мяне ўсюды шукалі. І глянула на мяне так, быццам я ўсё гэтае нарабіў.

Бацькі, узяўшы сярпы, пайшлі ў поле. Я застаўся з дзяцьмі і далей не ведаў, што гэта такое на Грабавец ляцела. Няма ні патопу, ні канца свету. І людзі жывуць, як раней.

А вечарам разнеслася па вёсцы вестка, што Ядзьмер збагацеў. Бацька кажа, што багатаму і чорт дзеці калыша. Ядзьмер, што завёз у Кляшчэлі на станцыю двух польскіх афіцэраў, якія прыляцелі ў Грабавец балонам людзей напужаць, зарабіў дваццаць злотых.

**Васіль Петручук**




Каля школьнай табліцы аб'яў натоўп моладзі. Вывешаны вынікі міжкласных спаборніцтваў у навуцы за першае паўгоддзе. Падыходжу і я. Міжкласная класіфікацыя прадстаўляецца такім чынам:

1. — IV „б"
2. — I „б"
3. — II „б"
4. — III „б"
5. — I „а"
6. — IV „а"
7. — III „а"
8. — II „а"

На першым месцы клас IV „б". Тут няма чаго здзіўляцца. Так і павінна быць. Найстарэйшы клас. Вучні з гэтага класа хутка будуць здаваць экзамены на атэстат сталасці. Калі не ўсе, дык напэўна большая частка з іх думае паступіць у вузы. А туды без грунтоўных ведаў не лезь. Не дзіўна, што чацвертакласнікі ходзяць з высока паднятымі галовамі. Яны ганарацца: іх клас часта называюць вучні, што абступілі табліцу аб'яў. Спытайце ў школе пра Зіну Лабузінскую, Тамару Скепка, Уладзіміра Зенюка ці Галену Пракапюк. Не знойдзецца такі вучань, які не ведаў бы іх. Гэта не толькі выдатнікі IV „б" класа, але таксама перадавыя маладзёжныя і грамадскія дзеячы.

Каля табліцы аб'яў усё больш моладзі, а я далей разглядаю вынікі міжкласных спаборніцтваў. Нікога таксама не здзівіла моцнае другое месца I „б" класа. Вучні яго нядаўна прыйшлі з розных школ і іх яшчэ мала ведаюць. Так што I „б" хоча паказацца з як найлепшага боку. Першакласнікі стараюцца не ўступіць старэйшым класам. Толькі глядзець, як выйдуць яны на першае месца. Малайцы! Многа тут вучняў з пяцёркамі. А найлепшы Віктар Сахарчук на 13 прадметаў мае 10 пяцёрак і 3 чацвёркі. Гэта найлепшыя ацэнкі ў школе. Славяць клас таксама Тамара Плева, Марыя Стэмпкоўская, Галіна Антыпюк і Зофія Пляскавіч. Маеце рацыю, першакласнікі, чаго швэндацца, трэба працаваць.

Грэхам было б не ўспомніць аб II „б" класе. Гэта актыўны, вясёлы клас, вучні якога за паўтара года вучобы вельмі зжыліся. А такія вучні, як Міраслава Казлоўская, Галіна Галёнка ці Юры Нястэрук, заўсёды відны ў школе. Яны не толькі выдатнікі ў навуцы, але таксама вельмі добрыя сябры. Добры, сумленны клас. Добрая моладзь і добры жыццярадасны выхаваўца. Зжыты з класам. Яшчэ і таму мне гэты клас падабаецца, што гэта мой клас. І, думаю, мы хутка з трэцяга месца пяройдзем значна вышэй.

Разглядаю далей. Мне здаецца, што IV „а" не на сваім месцы. Павінен ён стаяць побач IV „б". Жадаю яму заняць лепшае месца. У гэтым класе найбольш актыўнымі і адначасова найлепшымі вучнямі з'яўляюцца Вера Гаворка, Ніна Філіманюк і Вера Філіманюк.

Яшчэ прозвішчы найлепшых вучняў іншых класаў. Поўнасцю заслужылі яны гэтага:

III „б" — Аліна Сяльвесюк, Аляксандр Лаўрыновіч, Анатоль Чабан і Яўгень Анікіюк;

III „а" — Міраслава Лукша, Марыя Красноўская;

I „а" — Ніна Леанюк, Варвара Младзяноўская, Галіна Лукашук;

II „а" — Аліна Хіліманюк, Марыя Гайдучэня.

На табліцы аб'яў сухія лікі, першае, другое месца... і г.д., найлепшы вучань, найгоршы вучань. Але толькі задумацца, што сапраўды за гэтымі лікамі скрываецца! Колькі ўпартай працы, радасных і сумных перажыванняў, нават слёз! Колькі нерваў нашых настаўнікаў і, вядома, нашых нерваў. Але, мабыць, так ужо павінна быць. Гэта ж навука, а яна ніколі не была лёгкай.

**Анін К.**

# ШТО МОГУЦЬ НАСТАЎНІКІ?



*Сям'я Грушэўскіх каля адной з экспазіцый на выстаўцы сваіх збораў.*

Праходзіўшая з І па 10 сакавіка г.г. у Беластоку **„Дэкада культуры вёскі"** прынесла шэраг каштоўных і цікавых мерапрыемстваў, якія садзейнічалі, па-першае, азнаямленню беластачан з культурным жыццём у нашым сучасным сяле, а па-другое, спрыялі ўстанаўленню супрацоўніцтва паміж рабочымі калектывамі беластоцкіх прадпрыемстваў з паасобнымі гмінамі ў справах культурнага абмену, адпачынку, сяброўскіх кантактаў і ў іншым.

Сярод шэрагу выставак, канцэртаў і сустрэч у час „Дэкады" асаблівай увагі заслугоўвае і карыстаецца зацікаўленнем наведвальнікаў выстаўка **„Этнаграфічныя помнікі ў зборах гміннай школы ў Янове"**, што адкрыта да канца сакавіка ў Акруговым музеі.

Выстаўка гэтая — красамоўны доказ таго, які бясцэнны ўклад для культуры можа ўнесці адна настаўніцкая сям'я, калі з ахвярнасцю, замілаваннем і піетызмам займецца вывучэннем і збіраннем прадметаў народнай культуры, азнаямленнем з яе каштоўнасцю сваіх выхаванкаў і заахвочваннем іх прадаўжаць і ўзбагачаць традыцыі сваіх дзядоў і бацькоў.

На выстаўцы прадстаўлены 120 экспанатаў: драўляны посуд (капані, дзежачкі, кубкі, ступа, чарпакі, лыжкі і г.д.), прылады апрацоўкі валакна (калаўротак, трапачкі, чаўнакі, цэўкі і інш.), прылады апрацоўкі зямлі (барана, сявенькі, каробкі і г.д.), вырабы з жалеза мясцовых кавалёў (путы, сярпы, матычкі і т.п.), разьба па дрэву (знешняе ўпрыгожванне хат: падстрэшнікі, вятроўкі, навугольнікі, падаконнікі і інш., а таксама постаці людзей і звяроў), вырабы мясцовых ганчароў і іншае.

— Пачалі мы знаёміцца з народнай матэрыяльнай культурай жыхароў Яноўскай гміны і збіраць самыя вартасныя экспанаты ў 1969 г., — расказаў наведвальнікам выстаўкі дырэктар гміннай школы **З. Грушэўскі**. — У вольны час мы разам з жонкай **Крыстынай**, таксама настаўніцай, узяўшы з сабой дачку **Агнешку**, вучаніцу пачатковай школы, падаваліся ў тую ці іншую вёску. Хадзілі з хаты ў хату, гутарылі з людзьмі аб народнай матэрыяльнай культуры і яе вартасці для сучаснага

**(Працяг на стар. 5)**



*Фрагмент выстаўкі.*




## З візітам у Шагала

Пад такім загалоўкам „Палітыка" за 26 лютага г.г. апублікавала інтэрв'ю з Маркам Шагалам. Слаўны мастак, як вядома, нарадзіўся і вырас у Віцебску. Віцебскія гады мелі таксама вялікі ўплыў на ўсю творчасць Шагала. Іх прыкмеціў аўтар інтэрв'ю і ў абсталяванні французскай віллы мастака. Шагал успамінае сваё дзяцінства і першыя спробы ў жывапісе, гаворыць таксама аб прывязанасці да роднага горада. Ужо праз тыдзень у час першай сустрэчы з Парыжам (1910 г.) ён шукае прычыну, каб вярнуцца ў Віцебск. Стрымлівае далечыня і беднасць. Тут знаёміцца мастак з Луначарскім, які пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі давярае Шагалу пасаду камісара мастацтва Віцебскай губерні. Шагал арганізуе ў Віцебску акадэмію мастацтва. Ды арганізатарская дзейнасць была не па натуры Шагала, і ён, за згодай Луначарскага, у 1922 г. зноў выязджае ў Парыж.

Ці калісьці потым адведаў свой родны кут?

— Так, — адказвае Шагал, — быў я ў СССР некалькі год таму, аднак Віцебск не наведаў. Гаварылі мне, што горад вельмі пацярпеў у час вайны, дык я хацеў пазбегнуць балючых хваляванняў. (рл)

## Maryla Rodowicz



ФОТА ПА ЗАКАЗУ

**Заказвала**
Багуся Гарадкевіч з Мастаўлян.

## Кансультацыя юрыста

**Пытанне:** Муж А. распіўся, кінуў дом і наймаецца да працы ад часу да часу ў розных людзей. Ён напазычаў у сваіх знаёмых грошай, якія прапіў. Даўгоў не плоціць, і крэдытары пагражаюць яму судом. Але ён з гэтага толькі смяецца, бо з яго ўзяць няма чаго, і адсылае крэдытараў да жонкі, гаворачы, што яна мае гаспадарку, на якую мужу і жонцы супольна наданы акт уласнасці, і можа доўг заплаціць. Ці жонка абавязана плаціць даўгі мужа, які не працуе на гаспадарцы, не садзейнічае павелічэнню яе даходаў, а сам стараецца ўхапіць з гаспадаркі, што толькі можа?

**Адказ:** Маёмасць, набытая ў час супольнага жыцця, і пакуль бакі з'яўляюцца мужам і жонкай, супольная. У нашым прыкладзе муж і жонка атрымалі супольна ад адміністрацыйных улад акт уласнасці, і таму няма сумнення, што гаспадарка — гэта супольная ўласнасць мужа і жонкі. Згодна са ст. 41 сямейнага права, крэдытар з мужа або жонкі можа патрабаваць заплаты доўгу з супольнай маёмасці. Аднак, калі муж лёгкадумна і нязгодна з інтарэсамі сям'і пазычыў грошы або вёў сябе неадпаведна і не садзейнічае выпрацоўцы даходаў на гаспадарцы, суд можа абмежаваць або нават выключыць магчымасць сцягвання доўгу з супольнай маёмасці. Крэдытар, які хацеў бы выканаць рашэнне суда, якім прысуджана была б ад мужа заплата доўгу з гаспадаркі, вымушаны быў бы выступіць у суд з просьбай аб наданні рашэнню суда кляўзулі выканальнасці адносна да жонкі і супольнай маёмасці. Калі жонка дакажа, на якія мэты была прызначана пазыка, або што муж не працуе на гаспадарцы і не садзейнічае даходам, суд можа адмовіць надання кляўзулі выканальнасці, і даўтоў не можна будзе скіраваць на гаспадарку.

## Вер — не вер

Дарагі Астроне! Снілася мне, што я была дома са сваімі сябрамі, бо мае бацькі паехалі кудысьці ў госьці. Хлопцаў гэтых было трое, усе з маёй вёскі. Адным з іх быў той, з якім я нядаўна перастала хадзіць. Калі мы так сядзелі, ён сказаў, што пойдзе дадому. Я выйшла за ім, каб адсунуць дзверы, бо былі замкнутыя. У сенях я запытала яго, чаму ён ідзе і не застанецца ў нас (у сенях было цёмна). Ён мне сказаў, што яны пілі гарэлку ў іх і не дапілі. З гэтых слоў выглядала, што ён таму ідзе дадому, што не выпіта гарэлка. Я тады запытала, чаму яны не могуць выпіць у маім доме. Ён мне, здаецца, нічога не сказаў (не вельмі памятаю). Мне было вельмі сумна, што ён адыходзіць і не застанецца са мной. Калі я спытала ў яго, чаму не застанецца, ён нічога не сказаў, толькі абняў мяне і я да яго прытулілася, аглядаючыся, ці не бачаць нас тыя хлопцы, але ў сенях нікога апрача нас не было. Калі мы з ім стаялі, я адкрыла дзверы на двор і ўбачыла, што прыйшоў дзядзька да нас (ён вельмі часта прыходзіць да майго бацькі на вечаркі). Я сказала: „Чаго, тэсцю, хочаце?" (ён заўсёды гаворыць на мяне „нявестка"), але не памятаю, што ён адказаў. Дзядзька быў сумны — быў злосны, што я стаю з хлопцам сваім былым. Хлопец мой пайшоў, і я ўбачыла, што нібы пагнаў ад нас карову ці цяля, але я не здзівілася. Тады я голасна запытала, ці ён яшчэ прыйдзе, але ён памахаў галавой і сказаў, што не. Я вельмі сумавала і шкадавала, што ён пайшоў і не прыйдзе. Я пайшла за клуню і паглядзела, ці не едуць мае бацькі, але іх не было відаць. Я тады падумала, што як добра было б, каб ён застаўся, пагаварылі б мы з ім, пакуль прыехалі б бацькі. І далей я не помню, што мне снілася. Што можа абазначаць мой сон?

Ася

Ася! Ну, сон твой зусім, як урывак з жыцця. Чытаем яго, і здаецца, што апісваеш ты здарэнне з вашага сяброўства. Сон пацвярджае аднак, што былі нейкія промахі ў вашых справах (ты ж бачыла, як быў хлопец твой пагнаў ад вас карову ці цяля). І цяжка сёння сказаць, што з вамі будзе. А мо прыйдзе, калі ў сне памахаў адмоўна галавой і сказаў, што не прыйдзе?.. У снах жа вельмі часта ўсё выглядае наадварот! На ўсякі выпадак раю табе: разглядайся за іншым, можа тады ранейшы хлопец перастане цябе мучыць у снах.

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### ЦІ ВУЖЫНЫ ЯД ЛЕЧЫЦЬ АД РАКА?

Калі чалавека ўкусіць ядавіты вуж, то будзе гэта яму пагражаць хваробай або нават смерцю. Апошнія доследы, аднак, дазваляюць верыць у тое, што гэтыя паўзуны, узбуджаючыя ў чалавека страх, неўзабаве будуць іграць вялікую ролю ў медыцыне. Іх яд, як высветлілася, не толькі забівае, але можа таксама лячыць — нават рак і інфаркт.

Аб тым, што вужыны яд, адпаведна выкарыстаны, можа быць лякарствам, чалавек ведае ўжо даўно. Напрыклад, яд кобры прымяняецца ў малых, няшкодных дозах як абязбольваючае лякарства. Дзейнічае ён, як наркотык, не выклікаючы пры гэтым наркатычнага голаду.

Спачатку навука не ўмела высветліць, якім чынам дзейнічае яд. Вынікі апошніх доследаў даводзяць, што яд складаецца з 30-40 розных гатункаў бялка, састаўленых разам такім складаным чынам, што яшчэ не ўдалося дагэтуль атрымаць яго сінтэтычна.

Чаму гэтае адкрыццё такое важнае?

Арганізм чалавека складаецца з більёнаў клетак. Безупынна адбываецца іх падзел — дзякуючы гэтаму магчымым з'яўляецца жыццё. У якасці „будаўнічага матэрыяла" клеткі выкарыстоўваюць спецыяльны бялок, які самі прадукуюць. Калі гэты працэс затрымаць пры дапамозе яду, клетка гіне.

Ракавыя клеткі разрастаюцца і дзейнічаюць намнога хутчэй, чым здаровыя. Даючы яд, можна, такім чынам, знішчыць працэс прадукцыі бялка і падзелу клетак рака. Тады аднак будуць знішчаны тыя самыя працэсы і ў здаровых клетках. Найважнейшым было б цяпер знайсці сродак, які атакаваў бы хутка растучыя клеткі рака, пакідаючы ў спакоі здаровыя клеткі.

І тут якраз вучоныя зрабілі вялікі крок наперад. Ім удалося раздзяліць віды бялка, які знаходзіцца ў ядзе, і даследаваць іх featureзнае ўздзеянне. У дадзены момант ужо можна высніць, чаму, напрыклад, укус кобры можа выклікаць параліч цэнтральнай нервовай сістэмы, а яд іншых вужоў можа спыніць працу лёгкіх. Гэта дазволіла даследчыкам ізаляваць з 75 відаў яду вужоў тыя састаўныя часткі, якія будуць атакаваць клеткі рака, аберагаючы пры гэтым здаровыя.

Вучоныя спадзяюцца, што яд будзе не толькі тармазіць няправільныя працэсы падзелу клетак, але дапамогуць выратаваць чалавека ў перадзавалавых станах.

**Эскулап**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Год назад я выйшла замуж. Жывем разам з бацькамі мужа. Спачатку было ўсё ў парадку, бацькі адносіліся да мяне сардэчна, і я адчувала сябе, як дома. Але нарадзілася дзіця. Нялёгка мне было: усе працуюць, а я адна заставалася. Але старалася справіцца з усім як толькі магла. Крыху памагала мне цёшча, прыйшоўшы з работы. Але я пачала і мужу сёе-тое даручаць зрабіць, калі ён быў свабодны. Муж пачаткова не адракаўся ад работы, але цёшча выразна сказала, што бабскай работы ён рабіць не павінен. А гэта яму і на руку. Ён ужо і дадому не вельмі спяшаўся і час ад часу п'яным прыходзіў, авантураваўся. Я спачатку цярпела, маўчала. Але часта гэта здаралася, і нарэшце я не вытрымала і пачала з ім сварыцца. Тут ужо цёшча абурылася на мяне як след. Нават сказала, што ён жа працуе, яму адпачынак таксама патрэбны, а што грошы зарабляе, дык і выпіць можа. Цёшча ўжо трактуе мяне як служанку, сама я нічога вырашыць не магу, усё толькі загады яе выконваю. Нарэшце, пасля чарговай п'янкі мужа я сказала, што жыць з ім не буду. Тады ўжо абое бацькі мужа на мяне накінуліся. Кажуць, дзіця ёсць і жыць трэба. Але я ўжо вытрымаць так далей не магу і таму, Сэрцайка, да цябе за парадай звяртаюся.

Аня з Беластока

Аня! Ты так адразу мужа не кідай, але неабходна вам пакінуць цесцяў, бо „сляпая" любоў цёшчы да сына надта тут шкодзіць. Яе рада — цярпець і маўчаць — спрыяе п'янцы сына і можа яго, яшчэ маладога, зусім сапсаваць. Таму і трэба вам аддзяліцца як найхутчэй ад бацькоў, можа ваша самастойнае жыццё яшчэ і добра ўложыцца. Гэта праўда, што дзіцяці патрэбны і бацька і маці, але патрэбна сям'я спакойная і здаровая.

**Сэрцайка**

## Этнаграфічнае акенца



*Вёска Валілы — станцыя.* *Фота Я. Цялушэцкага.*




...Хто там? Гэта вы, фрау Аліса?

— Я, я, адчыніце хутчэй!

— Бог з вамі, што здарылася? Няўжо ўжо рускія?

Людвіг Кох, прапусціўшы Алісу і мармычучы пад нос штосьці незразумелае, старанна зачыніў дзверы на засаўку і ланцужок.

— Я вельмі расхваляваўся, фрау Аліса. Такі час, ведаеце, цяпер лепш сядзець дома. Сёння хадзіў штампаваць хлебныя карткі. А там нікога. Дзе браць хлеб? Сустрэў Зікса, памятаеце, хваравіты такі хлапчук, мой вучань? Уяўляеце, цягне на плячы вялікую такую штуковіну. „Навошта гэта?" — пытаю. — „Фаустпатроны, пан настаўнік". Такі час, ведаеце, фрау Аліса...

Тая, да каго адносілася гэта тырада, — маладая, бялявая жанчына гадоў дваццаці пяці, зняла капялюшык, акуратна павесіла паліто на вешалку. Яе прыгожы твар нічога не выражаў — ні шкадавання, ні спачування, ні трывогі. Было бачна, што галашэнні Коха, гэта такі ж атрыбут гэтага дома, як старое крэсла, якое стаіць у самым нязручным месцы, у пярэдняй, крэсла, у якое ніхто ніколі не садзіўся...

Яна прайшла ў свой пакой, шчыльна зачыніла за сабой дзверы і раптам нечакана кінулася на тахту, закрыла твар рукамі.

Стары настаўнік, у якога наймала пакой гэта паненка з Кёнігсберга, расцаніў па-свойму глухі плач, што даносіўся з-за дзвярэй. Ці ж гэта жартачкі — зусім яшчэ дзяўчынка, а колькі перанесла: бальшавікі на яе вачах расстралялі бацьку і брата, згарэў дом, прапаў маёнтак.

Напэўна, Людвіг Кох з'ехаў бы з глузду, калі б даведаўся пра сваю кватарантку праўду.

А фрау Аліса ляжала, закінуўшы рукі за галаву, і яе шырока раскрытыя шэрыя вочы былі поўныя слёз.

Фрау Аліса... Там, у лагеры, яна не плакала ні разу. Ні разу з таго часу, як павялі яе ў фашысцкую няволю з роднага Кіева. Тады ніхто не плакаў, каб не было радасці ў гэтых вылюдкаў. Слёз не было. Слёзы знайшліся і пырснулі ва ўсіх разам, калі аднойчы ранічай раптам зніклі эсэсаўцы, пусціўшы з вышкі кулямётную чаргу па бараках, якія яшчэ спалі, і, прыпаўшы да дзірак, людзі зашапталі: „Нашы, нашы!.."

Валя ніколі раней не ведала, які смак на вуснах пакідае прапыленая, залепленая граззю гарачая браня танка...

— Ды што вы, бабы, звар'яцелі, ці што? Танкі цалаваць — ці бачыў хто такое? — Вялізны, барадаты танкіст, вінавата, разгублена, пераступаў з нагі на нагу, не ведаючы, што рабіць.

— Таварыш камандзір, што ж гэта такое! Як жа мы, таварыш камандзір...

...Потым ежа — колькі хочаш, адпачынак — колькі хочаш. Людзі баяліся заснуць, таму што ў снах яшчэ вярталіся гэтыя страшэнныя „Шнэль, шнэль! Русіш швайн, шнэль!.."

...Потым размова, якая яшчэ раз змяніла ўсё жыццё.

— Працавала на авіязаводзе? Ведаеш нямецкую? Хочаш адпомсціць фашыстам? Добра, мы падумаем...

...Потым:

— Вы Аліса фон Ліхтэнг, дачка прускага памешчыка. Кёнігсберг, Фрыдрыхштрасе, адзінаццаць. Пакінеце горад разам з бежанцамі. Пастарайцеся трапіць у Ноен-Клічке і ўладкавацца на работу. Правяраць асабліва не будуць — ім не да таго, а людзі патрэбны. На сувязь выходзьце ў сераду, у восем нуль-нуль, але толькі пасля выкліку...

А выкліку ўсё не было. Выкліку не было, хоць Валі неймаверна пашанцавала. Яна ўладкавалася стэнаграфісткай у гестапа.

Выкліку не было нават тады, калі Валя даведалася аб узяцці нашымі Берліна. Ёй ужо здавалася, што пра яе проста забылі. І вось сёння ў 8.00 яна, як звычайна, адстукала свае пазыўныя і збіралася ўжо складваць рацыю, як раптам:

„Падрыхтуйцеся да сустрэчы „жаніха". Ён прыйдзе сёння, сёння"...

Валя паўтарыла, запамінаючы шыфраваныя каардынаты сустрэчы, і выключыла рацыю.

Раптам яна пачула, а правільней ад-

